# Голас Радзімы

№ 33 (2123)
17 жніўня 1989 г.



ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)



Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

Місія міласэрнасці — так можна назваць дзейнасць гэтай жанчыны, што на фотаздымку. Міласэрнасць усё шырэй уваходзіць ва ўзаемаадносіны сучасных людзей, у іх жыццё, адкуль яе, здавалася б, «выжылі» назаўсёды. Не, засталіся яшчэ ў душах людзей парасткі дабра і спачування да бліжняга. На жаль, толькі далёка не ва ўсіх. Тым большую каштоўнасць для кожнага з нас, для ўсяго грамадства ўяўляюць тыя прыклады бескарыслівай дапамогі, што з'явіліся ў нашым сучасным побыце.

НА ЗДЫМКУ: Алена ЖЫЛКІНА — сястра міласэрнасці.

(Расказ пра добраахвотную, дабрачынную дапамогу веруючых сясцёр міласэрнасці цяжкахворым чытайце на стар. 3).

Фота С. КРЫЦКАГА.

ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ

## КЛУБ ВЫБАРШЧЫКАЎ

У Гомелі на базе груп падтрымкі кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР, што былі створаны ў ходзе сёлетніх выбараў, арганізаваны клуб выбаршчыкаў. Яго асноўная мэта, па думцы ініцыятараў,—забеспячэнне прамой сувязі паміж выбаршчыкамі і дэпутатамі, магчымасць выбаршчыкаў непасрэдна ўплываць на тыя або іншыя рашэнні, якія прымаюцца Саветамі розных узроўняў. Акрамя таго, у ліку прыярытэтных задач клуба — садзейнічанне кіраўніцтву рэспублікі, вобласці, горада ў вырашэнні праблем, звязаных з маючым адбыцца пераходам Беларусі на гаспадарчы разлік, удзел у арганізацыі і правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы народных дэпутатаў.

На ўстаноўчым пасяджэнні ўтворана група па выпрацоўцы праектаў праграмы і статута клуба, якія будуць разгледжаны і зацверджаны ў бліжэйшы час.

Старшынёй клуба выбаршчыкаў абраны рабочы Гомельскага радыёзавода, народны дэпутат СССР В. Карнеенка.

ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

## ЧАКАЮЦЬ ДАПАМОГІ

Апошнім часам у цэнтральнай і рэспубліканскай прэсе з'явіўся шэраг матэрыялаў, дзе ішла размова аб неабходнасці ўдзяліць асаблівую ўвагу здароўю дзяцей, якія пражываюць у зоне з павышаным радыеактыўным фонам.

У прыватнасці, гаварылася пра тое, што без набыцця высокаэфектыўнага імпартнага абсталявання—ультрагукавых скенераў—немагчыма ажыццяўляць раннюю дыягностыку захворванняў шчытападобнай залозы. Прыводзіўся і такі факт: Міністэрства аховы здароўя СССР, нягледзячы на тое, што Дзяржплан СССР выдзеліў на патрэбы беларускай медыцыны 980 000 рублёў у валюце першай катэгорыі, затрымала перадачу рэспубліцы гэтай сумы.

Тым часам на заклік аб дапамозе адклікнуўся далёкі Мельбурн. Генеральны дырэктар аўстралійскай фірмы «Рапоэкспартімпарт» Ф. Рапапорт прапанаваў свае паслугі на ўмовах проста дабрачынных: неабходная Міністэрству аховы здароўя БССР медтэхніка прапаноўвалася са скідкай амаль 100 тысяч долараў. Аўстралійскі бізнесмен, выхадзец з Беларусі, прапанаваў набыць такія неабходныя ў кожным пацярпеўшым ад радыяцыі раёне прыборы—20 ультрагукавых скенераў—па заводскай цане, поўнасцю адмовіўшыся ад прыбытку для сваёй фірмы, арганізаваць іх хуткую і бясплатную дастаўку ў рэспубліку. Атрымаўшы такую выгадную прапанову, у Маскву за валютай тройчы адпраўляліся прадстаўнікі беларускай медыцыны. Але марна...

Як паведамілі ва Упраўленні спраў Саўміна БССР, пасля «шуму», узнятага прэсай, уся выдзеленая валюта будзе пералічана на рахунак знешнегандлёвага аб'яднання «Беларусзамежгандаль». Але поўнасцю задаволіць валютныя патрэбы беларускай медыцыны гэта сума, зразумела, не можа. Толькі для тэхнічнага абсталявання Інстытута радыяцыйнай медыцыны Міністэрству аховы здароўя БССР неабходны два мільёны рублёў.

ЮБІЛЕІ

## 60-годдзе БТІ

Беларускі тэхналагічны інстытут імя С. Кірава ў новым навучальным годзе адзначыць сваё 60-годдзе. За гэты час ён падрыхтаваў для народнай гаспадаркі краіны больш як 25 тысяч спецыялістаў.

З бягучага года студэнты БТІ будуць навучацца па чатырох новых спецыяльнасцях: хімічная тэхналогія матэрыялаў і вырабаў электроннай тэхнікі; канструяванне і вытворчасць вырабаў з кампазіцыйных матэрыялаў; ахова навакольнага асяроддзя і рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў; хімічная тэхналогія арганічных рэчываў. А ўсяго на пяці факультэтах інстытута каля 5,5 тысячы студэнтаў навучаюцца дванаццаці спецыяльнасцям.

Для параўнання можна сказаць, што ў 1950 годзе ў інстытуце (тады ён называўся лесатэхнічным) было толькі тры аддзяленні — лесаінжынернае, лесагаспадарчае і механічнай тэхналогіі драўніны. У інстытуце займалася ўсяго 200 першакурснікаў. А ў надыходзячым юбілейным для БТІ навучальным годзе на пяці факультэтах будзе займацца каля 900 першакурснікаў.

АДУКАЦЫЯ



Радасці і засмучэнні, маленькія таямніцы і смелыя фантазіі давяраюць вучні 72-й мінскай школы Ніне Астроўскай, якая амаль 30 гадоў выкладае тут беларускую мову і літаратуру. Ніна Іванаўна — палымяны прапагандыст роднай мовы не толькі сярод вучняў. Шмат саюзнікаў у Астроўскай і ў педагагічным калектыве: некаторыя настаўнікі рыхтуюцца выкладаць свае прадметы на беларускай мове.

НА ЗДЫМКУ: Ніна АСТРОЎСКАЯ з вучнямі з першага беларускага класа.

НА ГРАМАДСКІХ ПАЧАТКАХ

## СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА СПАЖЫЎЦОЎ

Слова «спажывец», якое яшчэ некалькі гадоў назад ужывалася ў нас са зневажальным адценнем, сёння набыло як нельга больш станоўчы сэнс. У Мінску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя новага фарміравання — Таварыства спажыўцоў Беларускай ССР. Гэта добраахвотная арганізацыя, якая валодае статусам юрыдычнай асобы, бярэцца абараняць кожнага, хто апынуўся адзін на адзін з дыктатам вытворцаў, гандлю, бытавога абслугоўвання, прадстаўляць інтарэсы многіх тысяч людзей у дзяржаўных органах. На канферэнцыі прыняты статут таварыства, згодна з якім у ім не будзе платных «функцыянераў», уся работа заснавана строга на грамадскіх пачатках. Акрамя таго, рэспубліканскае праўленне таварыства не валодае адміністрацыйнымі паўнамоцтвамі ў адносінах да нізавых звенняў.

АПУБЛІКАВАНЫ ПРАЕКТ

## НА ПРЫНЦЫПЫ ГАСРАЗЛІКУ

Рэспубліканскі друк змясціў для ўсенароднага абмеркавання падрыхтаваны Дзяржпланам праекты асноў аб перабудове кіраўніцтва эканомікай і сацыяльнай сферай у Беларускай ССР на прынцыпах самакіравання і самафінансавання. Пасля абагульнення заўваг і прапаноў, што паступяць на працягу месяца, праект будзе ўнесены на разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Па новаму закону ўзаемаадносіны Беларускай ССР з саюзнымі органамі і саюзнымі рэспублікамі будуюцца на прынцыпах, па-першае, спалучэння інтарэсаў рэспублікі і Саюза ССР у цэлым і, па-другое, узаемавыгаднасці і эквівалентнасці эканамічных адносін, абмену таварамі і паслугамі з іншымі суверэннымі рэспублікамі. За Саюзам ССР захоўваецца вырашэнне толькі стратэгічных праблем, якія забяспечваюць функцыяніраванне адзінага народнагаспадарчага комплексу краіны, а да кампетэнцыі БССР адносяцца пытанні, што вынікаюць са становішча саюзнай рэспублікі як носьбіта дзяржаўнага суверэнітэту, у тым ліку ў галіне знешнеэканамічных адносін і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі.

Эканамічныя адносіны з саюзнымі рэспублікамі будуюцца на аснове міжурадавых дагавораў, пагадненняў, заключаемых органамі дзяржаўнага кіравання рэгіёнаў, міністэрствамі і ведамствамі, а таксама ажыццяўляюцца ў форме прамых сувязей паміж аб'яднаннямі, прадпрыемствамі і арганізацыямі.

Самакіраванне прадугледжвае самастойнасць абласцей, гарадоў, раёнаў у вырашэнні ўсіх пытанняў мясцовага значэння, поўную адказнасць тэрыторый за стан развіцця мясцовай гаспадаркі. У веданне мясцовых Саветаў перадаюцца прадпрыемствы і аб'яднанні, арыентаваныя пераважна на задавальненне патрэб данай тэрыторыі. За міністэрствамі і ведамствамі захоўваюцца галоўным чынам функцыі правядзення адзінай тэхнічнай палітыкі, арганізацыі ўкаранення дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў і метадычнага кіраўніцтва.

Самакіраванне тэрыторыі павінна арганічна спалучацца з самакіраваннем працоўных калектываў. Выключаецца ўмяшанне мясцовых органаў ва ўнутрыгаспадарчую дзейнасць прадпрыемстваў і арганізацый, калі яна не робіць шкоднага ўплыву на навакольнае асяроддзе і здароўе насельніцтва, не наносіць урону інтарэсам тэрыторыі.

Самафінансаванне азначае, што развіццё рэспублікі, абласцей, гарадоў і раёнаў ажыццяўляецца галоўным чынам за кошт зароблены сродкаў. Самафінансаванне тэрыторый забяспечваецца заканадаўчым замацаваннем за імі пастаянных крыніц даходаў і плацяжоў з прыбытку ўсіх размешчаных на адпаведнай тэрыторыі прадпрыемстваў і арганізацый, падаткаў і збораў, платы за прыродныя і працоўныя рэсурсы і г. д.

Эканоміка-прававой асновай узаемаадносін рэгіянальных органаў кіравання з прадпрыемствамі з'яўляецца дагавор на рэсурса- і прыродакарыстанне. У ім замацоўваюцца эканамічныя ўмовы карыстання рэгіянальнымі рэсурсамі, парадак кампенсацыі затрат на іх папаўненне, а таксама кампенсацыя страт і ўрону, наносімых гаспадарчай дзейнасцю навакольнаму асяроддзю і насельніцтву.

Самакіраванне і самафінансаванне базіруюцца на разнастайнасці форм грамадскай уласнасці— дзяржаўнай (агульнасаюзнай і рэспубліканскай), кааператыўнай, уласнасці грамадскіх арганізацый і працоўных калектываў, а таксама індывідуальна-працоўнай і змешаных форм.

Рэспубліка павінна мець права распараджацца зямлёй, яе нетрамі, лясным, воднымі і іншымі прыроднымі рэсурсамі на сваёй тэрыторыі. Адначасова за Саюзам ССР трэба замацаваць правы вызначэння агульнасаюзных асноў карыстання імі, у тым ліку з улікам інтарэсаў абароны і бяспекі краіны.

Размежаванне функцый рэспублікі і Саюза павінна ажыццяўляцца паэтапна. На першым этапе на саюзным узроўні захоўваецца кіраванне тымі вытворчымі комплексамі і галінамі, якія маюць рашаючае значэнне ў функцыяніраванні эканомікі краіны як адзінага цэлага (паліўна-энергетычны комплекс, металургія, машынабудаванне, хімічная, медыцынская і мікрабіялагічная прамысловасць, абаронныя галіны, агульнасаюзныя сістэмы чыгуначнага, авіяцыйнага, трубаправоднага транспарту, інфарматыка і сувязь).

У веданні рэспублікі сканцэнтроўваецца вытворчасць тавараў народнага спажывання, сфера паслуг насельніцтву, вытворчая інфраструктура рэспубліканскага значэння, будаўнічы комплекс, прыродаахоўная і іншыя віды дзейнасці, непасрэдна звязаныя са штодзённым жыццём людзей.

На другім этапе па меры стварэння неабходных умоў намячаецца далейшае расшырэнне сферы гаспадарання рэспублікі.

УБОРКА ЎРАДЖАЮ





У беларускіх сялян зараз самае жніво. Ураджай, вырашчаны неблагі. І цяпер галоўная задача—без страт убраць і захаваць яго. А гэта для нашай гаспадаркі—праблема немалая.

На ўборцы звычайна працуюць самыя вопытныя механізатары. Побач з майстрамі жніва ўпэўнена адчувае сябе моладзь. У саўгасе «Лепельскі» Лепельскага раёна сур'ёзны экзамен на хлебаробчую прафесію здае нядаўні выпускнік сельскага прафтэхвучылішча Уладзімір Разумаў, прызначаны памочнікам да камбайнера Мікалая Старынскага, для якога сёлетняя ўборка—дзявятая.

НА ЗДЫМКАХ: зерне новага ўраджаю; камбайнер Мікалай СТАРЫНСКІ (справа) са сваім маладым памочнікам Уладзімірам РАЗУМАВЫМ.

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ВУЧОНЫХ

# ШТО Ў МАЛОЙ ГАЛАВЕ

НА МОЙ погляд, у справе рэформы эканомікі на працягу апошніх чатырох гадоў асаблівых вынікаў не назіраецца. Гэта тлумачыцца тым, што да гэтага часу ў нас няма ніводнай дакладнай, перспектыўнай эканамічнай мадэлі сацыялізму. У дыскусіях недахопу няма: Л. Абалкін, Г. Папоў, М. Шмялёў, А. Аганбегян і іншыя «зоркі» навукі ўпарта адстойваюць свае ўласныя пункты гледжання, а звесці іх у адно не атрымліваецца. Кожная эканамічная школа, кожны навуковы інстытут як бы замкнуліся ў сабе.

Акрамя таго, на інстытуты «навесілі» гаспадарчы разлік. Гэта прыводзіць да таго, што тэарэтычныя распрацоўкі, так неабходныя менавіта на першым этапе рэформ, часта прыносяцца ў ахвяру практычным інтарэсам, неабходнасці зарабляць сродкі для існавання.

Ёсць і яшчэ адзін (вельмі важны, на мой погляд) момант. Узаемаадносіны эканамічных школ да гэтага часу будуюцца ў адпаведнасці з агульнымі прынцыпамі ўзаемаадносін Цэнтра і саюзных рэспублік. Лічыцца, што Цэнтр — гэта вялікая галава, а на перыферыі рассыпаны маленькія дапаможныя галоўкі (выключэнне, бадай, складае Новасібірская школа, якая адрозніваецца дастатковай ступенню незалежнасці). Практычна гэта праяўляецца ў тым, што толькі вучоныя Масквы маюць магчымасць і права на распрацоўку канцэпцый, мадэлей і напрамкаў рэформ. Гэта, вядома, не азначае, што, напрыклад, вучоныя-эканамісты Беларусі сядзяць, што называецца, склаўшы рукі. Аднак выйсці са сваімі распрацоўкамі за межы рэспублікі мы амаль не маем магчымасці. Практыка ж апошняга часу паказвае, што плюралізм думак у грамадска-палітычным жыцці дае адчувальныя станоўчыя вынікі. Думаецца, што і эканамічнай навуцы ён бы не перашкодзіў.

У адным з інтэрв'ю акадэмік Л. Абалкін сказаў, што, аб'ехаўшы ўсю краіну, ён не знайшоў сярод вучоных-эканамістаў ніводнага дастойнага, каго б ён мог запрасіць на работу ў свой інстытут. Пры ўсёй павазе да Л. Абалкіна, як вучонага і паслядоўнага барацьбіта (менавіта барацьбіта) за радыкальную перабудову, пагадзіцца з такой думкай нельга. Выходзіць, што адной рукой ён галасуе за дэмакратызацыю, самастойнасць і ініцыятыву, а другой — за элітарнасць (прынамсі, у эканамічнай навуцы).

Дарэчы, па нашых назіраннях, адной з прычын, па якой суседнія з намі рэспублікі Прыбалтыкі настойліва імкнуцца да рэгіянальнага гасразліку, з'яўляецца менавіта жаданне не толькі самастойна думаць, але і ўвасабляць свае думкі практычна.

Ёсць такія імкненні і ў Беларусі. Але ў адрозненне ад Прыбалтыкі, мы не робім такіх рэзкіх крокаў у бок суверэнітэту (у дастаткова поўным яго разуменні). Адзін з нашых асноўных прынцыпаў — умацоўваць садружнасць, ствараць магутны Саюз з магутных рэспублік. У сувязі з гэтым нам не вельмі падабаецца формула «моцны цэнтр — моцныя рэспублікі», якая атрымала распаўсюджанне. Калі ёсць цэнтр, дык ёсць і падпарадкаваная перыферыя, якая атрымлівае з цэнтра ўказанні. Мы ж, нараўне з іншымі рэспублікамі, хочам быць раўнапраўнай састаўной часткай адзінага цэлага. Мы разам павінны пісаць саюзную «сімфонію», але кожная рэспубліка будзе выконваць у ёй сваю партыю.

Гэта зусім не азначае, што саюзнаму «аркестру» не патрэбны дырыжор. Абавязкова патрэбны, але ад[illegible] не як цяпер — 50 і больш[illegible] даным выпадку я маю на ўвазе саюзныя міністэрствы. Беларусь, напрыклад, мае ў сваім прамым кіраванні каля 10 працэнтаў прамысловага патэнцыялу, астатняе — у падпа[illegible]каванні саюзных міністэрств[illegible] І калі Дзяржплану Белару[illegible] трэба правесці якое-небудзь рашэнне, што датычыць гэтай саюзнай часткі, дык даводзіцца ўзгадняць яго з усімі саюзнымі «дырыжорамі». А калі аркестрам кіруюць адразу некалькі дырыжораў, дык атрымліваецца не сімфонія, а какафонія.

Але справа не толькі (і нават — не столькі) у велізарнай колькасці саюзных міністэрстваў. Мне здаецца, што іх скарачэнне або перадача іх функцый рэспубліканскім ведамствам не прынясе жаданага выніку. Галоўнае, што нас стрымлівае, гэта суперманапалізаваная структура вытворчасці. Калі ў якой-небудзь рэспубліцы пабудаваны аўтамабільны або трактарны, ці які-небудзь яшчэ завод, дык ён забяспечвае сваёй прадукцыяй усю краіну (а часам і на экспарт робіць). І канкурэнтаў у яго няма. І няма стымулу да НТП, і не патрэбны яму сусветны вопыт, і змагацца за спажыўца таксама не трэба. Ён — манапаліст і для атрымання дадатковага эфекту проста павышае цану.

Іншымі словамі, сённяшняя народная гаспадарка краіны ўяўляе сабой адну гіганцкую фабрыку. А навошта на адной фабрыцы два або тры аднолькавыя цэхі? І эканамічныя сувязі, узаемавыгадныя абменныя прынцыпы структурным звенням фабрыкі таксама не патрэбны: зусім дастаткова вытворча-тэхнічных.

Канкрэтны прыклад. Вытворчае аб'яднанне «Белаўтамаз», у складзе якога каля 10 заводаў на тэрыторыі Беларусі, Прыбалтыкі і ў некаторых іншых рэгіёнах краіны, створана па вытворча-тэхнічнаму прынцыпу. Арыентацыі на канкрэтнага спажыўца ў аб'яднання няма. Адзінае, што робіцца,—гэта паўночны, паўднёвы, экспартны варыянты машын. Над гэтымі варыянтамі ў аб'яднанні працуюць некалькі цэнтральных заводскіх лабараторый. І акрамя таго, заключана некалькі дзесяткаў дагавораў з маскоўскімі і ленінградскімі навуковымі інстытутамі (па шасі, рухавіках і інш). На гэтым латічны цыкл «ідэя — вытворчасць — рынак» перарываецца. Праблема збыту загадзя вырашана, хістанне цэн не хвалюе, канкурэнцыі ніякай.

А цяпер паспрабуем «Белаўтамаз» тэарэтычна дэманапалізаваць. Раз'яднаем яго на 3—4 самастойныя часткі, далучым да кожнай з іх навуковую, праектную, канструктарскую «галовы», створым маркетынгавыя службы. Але... Рэалізаваўшы гэтую ідэю, мы адразу ўбачым, што многія пытанні будуць выглядаць па-іншаму. Так, ва ўмовах манапалізму праблема працазатрат не з'яўляецца для прадпрыемстваў актуальнай. Пры канкурэнцыі ж таварaў на рынку на першы план выходзяць сабекошт прадукцыі і аб'ём прыбытку. А гэта, па нашых прыкідках, непазбежна скароціць патрэбу ў рабочай сіле на 25—30 працэнтаў.

Але зрабіць гэта зараз абсалютна не магчыма, бо ў краіне не існуе адпрацаванага механізма міжгаліновага і міжрэгіянальнага пераліву рабочай сілы. У гэтым сэнсе савецкі рабочы не абаронены. Ён не можа, напрыклад, забраніраваць за сабой кватэру ў Мінску (сталіца Беларусі) і часова паехаць на працу ў іншы рэгіён. У яго няма гарантый, што пасля перакваліфікацыі ён атрымае работу, не горшую за ранейшую. Праўда, да стварэння такога механізма мы ўжо прыступілі. Але пакуль яго няма, рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі з'яўляюцца, як гэта ні парадаксальна, адной з галоўных кансерватыўных сіл, якія стаяць на шляху перабудовы.

І апошняе. Усю адказнасць за сацыяльна-эканамічныя і палітычныя няўдачы мы ўскладаем сёння на каманднa-адміністрацыйную сістэму. З яе мы зрабілі пудзіла і з задавальненнем лупім яго палкамі. А калі паглядзець аб'ектыўна? У ГДР, напрыклад, аналагічная сістэма працуе дастаткова паспяхова. Значыць справа не ў ёй самой, а ў канкрэтных выканаўцах, з якіх мы самі ж, абвінаваціўшы Сістэму, знялі адказнасць. І калі б з каманднай сістэмы СССР своечасова быў выключаны каэфіцыент неразумнасці, а замест яго ўведзены каэфіцыент навуковага падыходу [illegible]рыняцця народнагаспада[illegible] рашэнняў, сёння мы займаліся б не радыкальнай рэформай, а карэкціроўкай нармальна дзейнічаючага механізма ў адносінах да эканамічны[illegible]умоў, што змяняюцца.

Таму сёння, ствараючы новую сістэму кіравання, заснаваную на дэмакратычных прынцыпах, крытэрыямі падбору кадраў павінны стаць інтэлект, адукаванасць, прафесіяналізм. Ці зможам мы гэтага дамагчыся? Здаецца, зможам. Мяне, напрыклад, вельмі ўзрадавала тое, што намеснікам Старшыні Савета Міністраў СССР назначаны акадэмік Л. Абалкін (хоць я і не адмаўляюся ад крытычных заўваг у яго адрас).

**Леў КРУКАЎ,**
**дырэктар Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Дзяржплана БССР.**





**Выпуск чайных напіткаў «Світанак», «Духмяны», «Крышталь» асвоіў калектыў маладзечанскага завода «Малінаўшчызна». Мірыс пахучы, мята, меліса лімонная, чабор і іншыя травы, якія вырошчваюць завадчане і дабаўляюць да напітку, надаюць чаю прыемную духмянасць і асаблівы смак. Не выпадкова попыт пакупнікоў на новую прадукцыю хутка расце, павялічваецца колькасць заявак на яе гандлюючых арганізацый.**

**НА ЗДЫМКАХ: загадчыца лабараторыі Зоя МОНІД (злева) і аграном Алена МОНІД правяраюць на спеласць пасевы мірысу пахучага; вось ён, маладзечанскі чай.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

## БЕСКАРЫСЛІВАЯ ДАПАМОГА ВЕРУЮЧЫХ ЦЯЖКАХВОРЫМ

# АБЛЯГЧЫЦЬ ЧУЖЫ БОЛЬ

У снежні мінулага года ў Мінскім кафедральным саборы прагучала просьба да веруючых—дапамагчы даглядаць цяжкахворых людзей у клініцы Інстытута траўматалогіі. І ўсяго праз некалькі дзён была створана служба міласэрнасці.

У ёй пакуль 32 чалавекі. Большасць—жанчыны, хаця ёсць і мужчыны. У іх дапамозе, дарэчы, асабліва вялікая патрэба, паколькі іншы раз неабходна фізічная сіла. Хворыя ж часам самастойна нават сесці не могуць, а трэба іх памыць, перасласць ложак, пераапрануць.

— Ведаеце, спачатку яны вельмі саромеліся нас, адмаўляліся ад дапамогі,—расказвае 24-гадовая Ірына Мікулік.—І не толькі таму, што мы «чужыя». Яны ... не прывыклі да такой увагі: санітаркі і нянечак жа не хапае. Адзін хлопец мне так і сказаў: «Я ўжо восем гадоў прыкаваны да ложка, заўсёды адзін, слова сказаць няма з кім. Вось прывыкну да вас, а раптам вы таксама пойдзеце, што тады?» І мне было цяжка пераканаць яго, што мы не кінем бальніцу, не пакінем хворых.

Іра гаворыць, што ім, сёстрам і братам міласэрнасці, было нялёгка і ў іншых адносінах.

— На першым часе, вяртаючыся з бальніцы, я многа плакала,—гаворыць яна.—Як успомню вочы тых маладых хлопцаў, якія ляжаць нерухома гадамі і, магчыма, ужо ніколі не паднімуцца без мыліц, дык душа проста на часткі рвецца Да таго ж, як ні грэх гэта, але давялося сябе перасільваць: у бальніцы ж праца не заўсёды, мякка кажучы, прыемная... Але я многа малілася, перачытвала Евангелле, дакарала сябе, успамінаючы, як рабілі святыя апосталы. Вельмі дапамагло і тое, што ў храме быў адслужаны спецыяльны малебен «Аб пачатку добрай справы», а затым кожную раніцу пры малітве сталі гучаць імёны і нашых падапечных, і ўсіх тых, хто нясе службу міласэрнасці. Нас гэта вельмі падтрымлівае.

Алена Жылкіна, староста службы, лічыць, што яе стварэнне неабходна не толькі для хворых, а ўвогуле для ўсіх. Прыклад людзей, якія добраахвотна ўсклалі на сябе такія абавязкі, магчыма, абудзіць і ў іншых жаданне дапамагаць. Але трэба разумець, гаворыць яна, што справа гэта цяжкая: некалькі сясцёр міласэрнасці не вытрымалі, пакінулі службу.

— Дзяжурым мы ў бальніцы, вядома ж, не кожны дзень,—расказвае яна,—а па графіку. Кожны выбірае найбольш зручны для сябе час—два разы на тыдзень па чатыры гадзіны. Хаця ёсць сярод сясцёр і братоў міласэрнасці і такія, хто спяшаецца да «сваіх» хворых ледзь ці не кожны дзень. Напрыклад, 78-гадовая Надзея Шарык, увогуле, здаецца, не пакідала б бальніцу...

Алена Аляксандраўна называе і іншыя імёны, паведамляе, што ў службе працуюць і інжынеры, і эканамісты, і рабочыя. Ёсць пажылыя людзі, ёсць і вельмі маладыя. Але ўсе яны, на яе думку, падобныя між сабой шчодрасцю душы, дабратой і любоўю да тых, хто мае патрэбу ў іх падтрымцы, цеплыні. Іру Мікулік яна лічыць адной з лепшых сясцёр міласэрнасці. І зусім не таму, што ў дзяўчыны больш прафесіяналізму (па асноўнай сваёй прафесіі яна таксама медсястра), а таму, што Іра бескарыслівая, усю душу ўкладвае ў служэнне хворым.

— Тыя гадзіны, якія я праводжу ў клініцы, пралятаюць як адно імгненне,—гаворыць дзяўчына.—І заўсёды шкада пакідаць сваіх падапечных. Мне здаецца, што людзі створаны для таго, каб дапамагаць адзін аднаму...

Добрая чутка пра службу міласэрнасці разнеслася па Мінску хутка. І вось нядаўна да іх прыйшла яшчэ адна просьба—ад урачоў пятай мінскай клінікі. На жаль, служба змагла накіраваць туды усяго 11 сясцёр міласэрнасці.

— Вельмі хацелася б,—гаварылі мне і Алена Аляксандраўна, і Ірына,—каб нас стала больш!

— А калі ўступіць у вашу службу захочуць не толькі веруючыя?—спытала я.

— Ну і выдатна,—у адзін голас адказалі сёстры міласэрнасці.—Мы з радасцю прымем да сябе любога чалавека, які хоча рабіць дабро.

А Ірына дадала яшчэ вось што:

— З таго часу, як я дапамагаю хворым, маё жыццё напоўнілася асаблівым сэнсам, таму што я магу хоць крыху, хоць на самую драбніцу, але аблягчыць чужы боль...

**Наталля БУЛДЫК.**

## РЭХА ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ

# НАПАЎЗАБЫТАЯ ВАЙНА

ДОБРАЯ прыкмета нашага часу — рост цікавасці да гісторыі, пераасэнсаванне яе падзей, абуджэнне памяці. Але які дзіўна выбарачны, няроўны гэты працэс. У ліку такіх падзей-дат і 75-годдзе з пачатку першай сусветнай вайны. Напаўзабытая вайна. Напаўзабытая трагедыя. Дзякуй богу, не ўсімі. Усвядоміўшы ўсю ненатуральнасць і небяспеку для духоўнага стану народа, ударыў у звон памяці беларускі пісьменнік Міхась Круль: сваёй аповесцю «Чырвоны касцёл», артыкуламі ў перыёдыцы, заклікам стварыць у раёне возера Нарач, на месцах кровапралітных баёў, мемарыял ахвярам першай сусветнай вайны. Ініцыятыва яго ўжо знайшла водгук у грамадскасці.

75 гадоў... Імгненне ў гісторыі і цэлае жыццё чалавека, пакалення. Адгукаючыся на гэтую дату, пройдзем па канве трагічных падзей той даўняй вайны, успомнім аб горкіх для расіян, для беларусаў, для многіх народаў свету, для ўсяго чалавецтва яе ўроках. Сёння, калі мы сур'ёзна задумаліся аб міры, гэта, напэўна, будзе вельмі своечасова.

Захаваўся стары здымак: над Чырвоным касцёлам у Мінску завіснуў нямецкі цэпелін. Здымак часоў першай сусветнай вайны. Сёння ён уяўляецца мне своечасовым сімвалам: у неба з храма ўзносяцца малітвы аб міры, але іх не чуюць ні багі, ні людзі.

Зрэшты, малітвы аб даравання міру, аб выратаванні і за спачын душы будуць потым. Спачатку былі ўрачыстыя малебны ў славу рускай зброі, цара і Бацькаўшчыны. Патрыятычны запал з прытвораў цэркваў, царскіх палацаў, з газетных палос расцякаўся па ўсёй неабсяжнай прасторы Расійскай імперыі. І мільёны адурманеных, падманутых, рассартаваных і раз'яднаных па ротах, батальёнах, палках яшчэ свята верачы, што ідуць змагацца за Бацькаўшчыну, на самай справе ішлі паміраць у акопы бясслаўнай імперыялістычнай. Як і мільёны тых, што ўзняліся ім насустрач па другі бок лініі фронта. Колькі стагоддзяў усё доўжыцца гэты падман, калі тым, хто мае ўладу і сілу, іграючы на святым пачуцці людзей — любові да радзімы, — удаецца пераканаць іх у праведнасці самых няправедных войнаў.

Так, гэта была вайна імперыялістычная, несправядлівая і захопніцкая з абодвух бакоў. Ну а калі так, ці варта на самай справе абуджаць жывую агульнанародную памяць аб ёй, клапаціцца аб аднаўленні зарослых, заараных старых магіл, разбураных часам і людской абыякавасцю, нематой помнікаў? І тым больш непакоіцца аб стварэнні новых, напрыклад, аб мемарыяле ахвярам першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі, у раёне возера Нарач. Ці варта? Бо столькі гадоў мінула, і столькі новых, драматычных і трагічных падзей напластавалася на тыя даўнія падзеі. Не звонам ужо, але слабым рэхам прабіваецца тая вайна скрозь пласт часу да нашай памяці. Змяніліся пакаленні. Высахлі слёзы смутку. Аціх боль старых ран.

Шчымяць, кровачачаць яшчэ раны вайны іншай — другой сусветнай, Вялікай Айчыннай. І выйшаў, нарэшце, на паверхню столькі гадоў заглушаны анестэзіяй страху боль ран, нанесеных рэпрэсіўнай сталінскай сякерай. Боль вядомых і невядомых пакуль Курапатаў.

Але менавіта таму, што ўсё гэта было на зямлі, на адной і той жа зямлі, — варта! Неабходна. Няхай паднімуцца, уражваючы сваёй нечаканай блізкасцю, помнікі і мемарыялы: ахвярам і героям першай сусветнай, грамадзянскай, Вялікай Айчыннай войнаў. І барацьбітам за перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі і Савецкай улады ў Беларусі. І ахвярам сталінізму. І героям Айчыннай вайны 1812 года. І Кастусю Каліноўскаму. І беларускім асветнікам. І... Кожны з іх няхай нясе свой змест, свае сімвалы, раскрываючы разам з тым агульную сутнасць — непарыўную пераемнасць пакаленняў, сувязь часоў і падзей.

Першая сусветная вайна бушавала на планеце 4 гады 3 месяцы і 10 дзён: з 1 жніўня 1914 года да 11 лістапада 1918. У яе арбіту аказаліся ўцягнутымі 38 дзяржаў з насельніцтвам звыш 1,5 мільярда чалавек — тры чвэрткі насельніцтва зямнога шара. Пад ружжо было пастаўлена 73,5 мільёна чалавек. І калі трубы палкавых аркестраў сыгралі сігнал адбою, чалавецтва недалічылася 10 мільёнаў жыццяў — столькі, колькі загінула ва ўсіх еўрапейскіх войнах за тысячу папярэдніх гадоў. Яшчэ 10 мільёнаў грамадзянскага насельніцтва забралі хваробы, эпідэміі, голад. Загінула, памерла, перастала існаваць 20 мільёнаў унікальных, своеасаблівых светаў.

Дабавім да загінуўшых 20 мільёнаў параненых, не забудзем аб мільёнах, што страцілі прытулак, калі віхура вайны падняла іх з родных мясцін і пагнала па гаротных бежанскіх дарогах. Улі[illegible] і 208 мільярдаў долараў даткаваных толькі на ваенныя патрэбы, г. зн. на тыражаванне смерці. А яшчэ былі разбураныя заводы, што не працавалі, руіны гарадоў, спаленыя вёскі. Страшэнны вынік вайны, зусім не выпадкова і не тол[illegible]а колькасці дзяржаў-удзе[illegible]ц упершыню ў гісторыі названай сусветнай. За гэтай назвай стаіць яшчэ і маштаб страт, асабліва жудасны сваім балансам, які зраўняў няпоўных пяць гадоў з папярэдняй тысячай гадоў. Па сутнасці гэта вайна дастаткова відавочна выявіла тэндэнцыю спаўзання чалавецтва да свайго самазнішчэння, калі яно не зможа ў час апамятацца і знайсці спосаб вырашыць узнікшыя супярэчнасці без зброі.

Ужо тады перадавыя розумы, прагрэсіўныя грамадскія сілы з трывогай загаварылі аб небяспецы вайны як сродку вырашэння міждзяржаўных спрэчак. Аднак змяніць палітыку сваіх дзяржаў ім не ўдалося. Узяў верх традыцыйны, вузкакласавы падыход пануючай эканамічна і палітычна буржуазіі. Больш таго, ён стаў вызначальным у адносінах да першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. Самае вялікае, у што змагло выліцца грамадскае адмаўленне вайны, — гэта ў пацыфісцкі рух. Ён меў свой прагрэсіўны сэнс і сваю высакародную мэту, але ў тых умовах аказаўся бяссільны.

У Расіі новае разуменне вайны і міру з найбольшай паслядоўнасцю і дакладнасцю выказалі Ленін і бальшавікі. Іх рашуча падтрымалі рэвалюцыйна-дэмакратычныя сілы, большасць працоўнага народа — рабочыя, салдаты, сяляне, перадавая інтэлігенцыя. Кастрычніцкая рэвалюцыя, па сутнасці, вырасла з адмаўлення вайны, з барацьбы за мір. Яна аказалася адзіным сродкам, які здольны быў насуперак волі ўрадаў краін Антанты і Траістага Саюза спыніць імперыялістычную вайну. «Далоў вайну, — тлумачыў у той час Ленін, — не азначае кіданне штыка. Гэта азначае пераход улады да іншага класа».

Факт класавай блізарукасці буржуазіі беспрыкладны: ва ўрадаў ваюючых дзяржаў, здаецца, нават не ўзнікла ідэя заключэння міру як магчымага сродку спынення рэвалюцыі. Наадварот, ідэя вайны, і менавіта як сродку задушэння рэвалюцыі, стала вызначальнай, адсунуўшы на другі план яе першапачатковы пабуджальны стымул — перадзел сфер уплыву. Орган шведскіх сацыял-дэмакратаў газета «Палітыкен» у пачатку лістапада 1917 года пісала: «Рэвалюцыя рабочых і салдат, якая скінула ў сакавіку царызм, імкнулася да міру, хлеба і забеспячэння ўлады народа. Але ўладу захапілі ў свае рукі капіталісты. Пачаўся голад, стала ясна: або рэвалюцыя заб'е вайну, або вайна — рэвалюцыю. Бюракратыя і капіталісты рабілі ўсё для таго, каб вайна забіла рэвалюцыю».

Гістарычны вынік гэтага супрацьстаяння вядомы. У трагічным полымі вайны, патушаным рэвалюцыяй, Ленін і бальшавікі разгледзелі прынцып, які і прапанавалі ў якасці асноватворнага ў міжнародных адносінах, — прынцып мірнага суіснавання. Але, на жаль, на шляху яго паўстаў фашызм. І павінна была прагрымець яшчэ адна сусветная вайна, якая забрала ўжо 50 мільёнаў жыццяў, павінна была паявіцца атамная зброя, спатрэбілася прайсці праз ледзяны страх вайны «халоднай», каб гэты пынцып пачаў, нарэшце, асэнсоўвацца як адзіная альтэрнатыва самазнішчэнню.

Новыя канцэпцыі не з'яўляюцца раптоўна, але падрыхтоўваюцца ўсім ходам развіцця чалавечага духу, усім гістарычным вопытам грамадства — яго дасягненнямі і памылкамі, яго радасцямі і бедамі, яго хваробамі і вылячэннямі. Ці не з магіл загінуўшых у той першай сусветнай, ці не на хлебных палях, бяздушна перааараных Марсам, прабіліся першыя парасткі разумення прыярытэту агульначалавечых каштоўнасцей над класавымі. Парасткі, якім не суджана было ў той час расцвісці, злучыць расколаты свет. Але і загінуць ім таксама не далі. Іх захаваў народ, які зрабіў рэвалюцыю, збярог у жорсткіх класавых баях грамадзянскай вайны, пранёс, як сцяг, у свяшчэннай Айчыннай, вызваляючы сваю і іншых народаў зямлю ад фашысцкага рабства. З тых парасткаў вырасла новае асэнсаванне, новае разуменне неабходнасці жыць у міры, мірнай жа працай сцвярджаючы перавагі той або іншай сацыяльнай сістэмы. З тых парасткаў ленінскага прынцыпу мірнага суіснавання вырастае, набываючы ясную тэарэтычную сутнасць і першыя практычныя контуры, канцэпцыя новага палітычнага мыслення.

У той, сямідзесяцігадовай даўнасці вайне дастаткова добра відаць і вытокі сённяшніх форм і метадаў барацьбы за мір — народнай дыпламатыі, палітыкі нацыянальнага прымірэння. Ці не магутныя антываенныя мітынгі і дэманстрацыі, ці не братанне на франтах — папярэднікі іх?! Дастаткова ўспомніць чэрвеньскія 1917 года дэманстрацыі пратэсту супраць прынятага Часовым урадам рашэння аб наступленні на фронце, дэманстрацыю — 3-4 ліпеня, расстраляную па загаду Часовага ўрада.

Дастаткова ўспомніць серыю братанняў на Заходнім фронце. Эпізадычныя да Кастрычніцкай рэвалюцыі, яны перараслі ў магутны рух пасля яе перамогі. 9 лістапада старшыня СНК У. І. Ленін звярнуўся да ўсіх палкавых, дывізіённых, карпусных, армейскіх і іншых камітэтаў, да ўсіх салдат і матросаў з заклікам узяць справу міру ў свае рукі. Падтрымка ўрада, які прадаставіў франтавым часцям поўнае права заключаць мясцовыя перамір'і, «салдацкія міры» з супрацьстаячымі часцямі і злучэннямі, развязала ініцыятыву салдацкіх мас. І не толькі па гэты, але і па той бок фронта. Нейтральная паласа адчужэння стала паласой сяброўскіх сустрэч. 14 лістапада паміж грэнадзёрскім корпусам і нямецкім камандаваннем супрацьстаячай часці быў падпісаны першы дагавор аб перамір'і: 19 лістапада ў 12 гадзін дня на ўчастку Баранавічы — Гарбачы — Паланечка змоўклі гарматы, ваенныя дзеянні спыніліся. Серыю новых «салдацкіх мiраў», якая прайшла ўслед за ім, завяршыў падпісаны 21 лістапада ў Солах дагавор аб перамір'і паміж ваюючымі арміямі на ўсім працягу Заходняга фронта. Гэта была бліскучая перамога народнай дыпламатыі, якая аказала велізарны рэвалюцыйны ўплыў на салдацкія масы ўсіх франтоў, аблягчыла Савецкай рэспубліцы выхад з сусветнай вайны.

Заходні фронт... Яго трохсоткіламетровае лязо з поўначы на поўдзень — ад Дзвінска (праз Паставы, Баранавічы) да Пінска [illegible] рассякло па жывому цела [illegible]русі. Цяжкія абарончыя баі 1915 года: за Брэст-Літоўск — аддадзены, за Гродна — адступілі, за Вільню — утрымалі. Але потым ідзе новае наступленне і прарыў фронта [illegible]ля Свянцян. Брэш удалося [illegible]ыць толькі ў ваколіцах [illegible]дзечна — Вілейкі — Смаргоні. Праціўнік быў адцяснёны ў раён азёр Нарач — Свір. Фронт стабілізаваўся, абодва бакі перайшлі да пазіцыйнай вайны, непрыкметна, але метадычна — адзін за адным, дзесятак да дзесятку, сотня да сотні, тысяча да тысячы — збіраючы сваё злавеснае жніво. Разавая ж цана Свянцянскага прарыву — 200 тысяч жыццяў.

Возера Нарач яшчэ раз увойдзе ў летапіс сусветнай вайны, даўшы назву наступленню войск Паўночнага і Заходняга франтоў у сакавіку 1916 года — Нарачанская аперацыя. 100 тысяч салдат, разарваных снарадамі, прашытых кулямі, удушаных газамі, леглі ў новыя брацкія магілы. Газы — страшэнная здань зброі масавага знішчэння прыйшлі да нас таксама з першай сусветнай.

Наступленне не прывяло да поспеху, захліпнулася, але сарвала другое — германскіх войск на Вердэн, якое адкрывала дарогу да Парыжа. Царскі ўрад салдацкімі жыццямі разлічыўся па саюзніцкіх векселях за шматмільярдныя пазыкі. Але гэта ўрад. Салдаты ж, гінучы, выратоўвалі тысячы жыццяў французскіх салдат — такіх, як яны, рабочых, земляробаў, служачых. Будзем і пра гэта помніць.

Заходні фронт... Яго паўтарамільённая армія ў пераважнай масе сваёй стала апорай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Да пачатку кастрычніка тут дзейнічала адна з самых шматлікіх франтавых арганізацый бальшавіцкай партыі, якая налічвала 21 тысячу членаў. У адрозненне ад іншых франтоў бальшавікі Заходняга фронта і бальшавікі прыфрантавой Беларусі аб'ядналіся ў адзіную партыйную арганізацыю з агульным кіруючым органам — Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РСДРП(б). Яснасць палітычнай лініі, рашучасць і прадуманасць канкрэтных дзеянняў, аўтарытэт яе лідэраў, такіх, як А. Мяснікоў, В. Фамін, М. Хатаевіч, І. Селязнёў, В. Каменшчыкаў і інш., забяспечылі бальшавікам масавую падтрымку сярод салдат. Рэвалюцыя на Заходнім фронце перамагла хутка і па сутнасці бяскроўна.

Вайна ператварыла Беларусь у арэну ваенных, баявых дзеянняў. Такая арэна не мае абаронных зон. Нават там, дзе не свісцяць кулі. Мірнае насельніцтва перастае быць мірным, плаціць сваю бязмерную даніну вайне. Чвэртка Беларусі з двума мільёнамі жыхароў апынулася пад акупацыяй. Яшчэ паўтра мільёна чалавек ператварылася ў бежанцаў, гаравалі па чужых кутах, перабіваючыся выпадковымі заробкамі. Цяжкія паборы, падаткі, рэквізіцыі, прыцясненні, голад і холад, хваробы і эпідэміі выкошвалі мірных аратых, жанчын і дзяцей. Мы не ведаем дакладных лічбавых даных аб лёсе мірных беларусаў у агульным трагічным спісе ахвяр грамадзянскага насельніцтва за гады вайны, але ў вобразнай ацэнцы Міхаіла Круля, што стала Беларусь за гады гэтыя магільнікам нумар адзін, — няма перабольшання.

Вайна нанесла велізарную страту фізічным сілам беларускага народа, але разам з тым, ператвараючыся ў рэвалюцыйную, паскорыла яго палітычнае абуджэнне, рост яго нацыянальнай самасвядомасці. Па той бок фронта разгаралася вызваленчая брацьба (аж да ўзброенай партызанскай) супраць захопнікаў, па гэты — рэвалюцыйная. Тысячы беларусаў — салдат, матросаў, рабочых — удзельнічалі ў рэвалюцыі ў Петраградзе, Маскве, іншых гарадах, у арміі і на флоце. У рэвалюцыйныя ж настроі і дзеянні, ва ўсведамленне сябе як нацыі пераплаўляліся паступова ў горніле вайны гора і слёзы беларускіх бежанцаў. Яны побач з салдатамі і матросамі склалі касцяк левага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады, якое яго лідэр Д. Жылуновіч прывёў да бальшавікоў, касцяк Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, якую стварыў А. Чарвякоў і якая ў красавіку 1918 года была ператворана ў беларускую секцыю пры Петраградскім раённым камітэце РКП(б). Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі і Савецкай улады ў Беларусі стварыла аснову, а рост нацыянальнай самасвядомасці беларускіх працоўных паслужыў адным з важнейшых пабуджальных фактараў для нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа, для ўтварэння БССР.

...Прычыны і характар, змест і вынікі, месца ў агульным кантэксце гістарычных падзей, сувязі з мінулым і сучасным, класавае і агульначалавечае, героі і ахвяры, мужнасць і баязлівасць, гуманнасць і жорсткасць — як многа граняў, як многа глыбінь у першай сусветнай вайны. І гэткай жа шматграннай, глыбокай павінна быць памяць аб ёй.

Душа чалавечая ў сваіх адносінах да мінулага і сучаснага, да тых, хто знаходзіцца на зямлі і ў зямлю пайшоў, — непадзельная. Чалавек, абыякавы да дзедаўскіх і бацькоўскіх магіл, не можа быць спагадлівым да тых, хто побач з ім. Яшчэ і таму неабходны мемарыял ахвярам першай сусветнай вайны. Гэта не проста святая даніна памяці загінуўшым, не проста гістарычная адукацыя саміх сябе. Сэнс і змест, 'дэйна-маральная напоўненасць мемарыяла багатыя і шматгранныя, непасрэдна перагукаюцца з усімі радасцямі, болем і трывогай нашага сённяшняга жыцця.

Толькі дзве сусветныя вайны пранесліся вогненным тайфунам над планетай. І цэлых дзве. Сусветныя. Няхай жа толькі ў памяць аб іх і застануцца манументы, бо помнікаў трэцяй ставіць проста не будзе каму.

**Аляксей КАРОЛЬ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

